



# Рэгіянальная газета. Rh.by

ТэлетыДзень 27

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

25 верасня 2015 года №39 **(1065)**


## Што ядуць у школьных сталоўках



старонка 5

## Капаем бульбу

Як фітнес па-беларуску ўплывае на здароўе

старонка 20

# ВУГРЫ

## вярнуліся на Нарач праз 10 гадоў

Чытайце на старонцы 3

Фота забяспечана Нацыянальным паркам "Нарачанскі".

ЗДАРЭННІ

# У Ашмянах падчас мотакроса ад траўмаў загінуў спартсмен

АШМЯНЫ

**Трагічны выпадак адбыўся 19 верасня падчас рэспубліканскага чэмпіянату па матакросе, паведаміў журналістам афіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта па Гродзенскай вобласці Сяргей Шаршаневіч.**

– Падчас агульнага заезду 65-гадовы спартсмен з Кобрына пасля скачка з трампліна няўдала прызямліўся на матацыкле і атрымаў цяжкія траўмы. Яго даставілі ў раённую бальніцу, дзе, нягледзячы на намаганні медыкаў, ён памёр ад шматлікіх цялесных пашкоджанняў, – расказвае Сяргей Шаршаневіч.

Па факце гібелі матацыкліста Ашмянскі раённы аддзел Следчага камітэта праводзіць праверку.

**Загінулы з'яўляўся дасведчаным матацыклістам і выступаў на падобных спаборніцтвах звыш дваццаці гадоў.**

Для высвятлення прычын і ўмоў яго гібелі следчыя ўстанаўліваюць адпаведнасць матацыкла тэхнічным патрабаванням, што прад'яўляюцца да гоначнай тэхнікі дадзенага класа.

– Вывучаецца арганізацыя выканання тэхнікі бяспекі пры правядзенні чэмпіянату, у тым ліку выкананне кантрольных адміністрацыйна-тэхнічных і медыцынскіх працэдур. У гэтых мэтах прызначаныя судова-медыцынская экспертыза і экспертыза тэхнічнага стану матацыкла. Апытваюцца прадстаўнікі арганізацыйнага камітэта, суддзі, удзельнікі заездаў, заўзятары, – растлумачыў афіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта.

Па выніках праверкі будзе прынятае працэсуальнае рашэнне.

**Паводле grodnonews.by.**

МІЖНАРОДНЫЯ СУВЯЗІ

# Дэсант з Германіі дапамагае "Надзеі"

ВІЛЕЙКА

**Ад 13 да 27 верасня ў дзіцячым рэабілітацыйна-аздараўленчым цэнтры "Надзея" на Вілейшчыне завіхаецца чарговы працоўны дэсант.**

Прыехалі прадстаўнікі грамадскага аб'яднання "Бобі" з горада Ботрап, Германія. Іх 11 чалавек, усе – пенсіянеры, расказала вядучы спецыяліст па міжнародных сувязях цэнтра **Вольга Габруковіч**.

Нямецкія працаўнікі аказваюць дапамогу ў замене абсталявання ў пральні, ва ўстаноўцы там розных машын, вядуць электрамантажныя, зварачныя ды іншыя работы ў "Надзеі".

Госці не толькі працуюць, але і сустракаюцца з дзецьмі, якія цяпер на аздараўленні ў цэнтры. Прывезлі ім з Германіі падарункі.

Для немцаў арганізуюць розныя экскурсіі, у тым ліку ў мемарыяльны комплекс "Памяці падзей Першай сусветнай вайны" ў вёсцы Заброддзе на Вілейшчыне.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

СВЯТЫ

# Стала вядомая дата абласных "Дажынак" у Вілейцы

ВІЛЕЙКА

**Абласныя "Дажынкі-2015" намечана правесці ў Вілейцы 14 лістапада.**

Пра гэта паведамілі ва ўпраўленні сельскай гаспадаркі і харчавання райвыканкама. Але гэта пакуль папярэдняя дата.

На "Дажынках" у Вілейцы збяруцца лепшыя хлебаробы Міншчыны і шматлікія госці.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Вілейскія таксісты хочуць пераканаць жанчын, што жыццё – гэта падарунак, а падарыць жыццё – гэта шчасце.

ГРАМАДСТВА

# "Усю дарогу ўгаворваў не забіваць плод. Не змог"

## Вілейскія таксісты пачалі акцыю супраць абортаў

ВІЛЕЙКА

**"Паважаныя калегі, сёння вёз кліентку з раніцы ў бальніцу на аборт. Дзяўчыне 18 год, усю дарогу ўгаворваў спыніцца, падумаць, не забіваць плод. Не змог. Яго больш няма...**

Прашу вас, змясціце гэты ліст, нагадайце пра праблему ў сябе ў горадзе. Вельмі шкада моладзь, якая, можа, яшчэ не разумее, што жыццё – гэта падарунак, а падарыць жыццё – гэта шчасце".

Такі ліст атрымалі работнікі адной са службаў таксі Вілейкі. Ён не стаў проста нагодай для абурэння ці абмеркавання, а прымусіў таксістаў да дзеяння. Яны пачалі акцыю супраць абортаў "Захавай жыццё".

– Пакуль акцыя ідзе ў сацсетках. Стварылі сваю групу ў адной з сацыяльных сетак, распаўсюджваем інфармацыю, – расказвае каардынатар акцыі супраць абортаў **Аляксандр Пузанкевіч**. – Заклікалі ўсіх дасылаць фота з дзеткамі. Хочам стварыць вялікі калаж і паказаць, што дзеці – гэта вялікая радасць і шчасце. Ужо сабралася нямала здымкаў.

У планах арганізатараў – дамовіцца з калегамі і ўдзельнікамі інтэрнэт-акцыі, сабраць нейкія рэчы, цацкі, прысмакі і перадаць у радзільню, для адмоўнікаў і малазабяспечаных мам, у дзіцячае аддзяленне бальніцы.

– У бліжэйшы час зоймуся перамовамі з галоўным доктарам Вілейскай бальніцы, – кажа Аляксандр. – Але гэта толькі планы. Справа ў тым, што людзі, здаецца, і адгукнуліся, і цікава ім удзельнічаць, але калі тычыцца справы, мала хто прыходзіць. Ніводная грамадская арганізацыя горада пакуль не падтрымала пачынанне. Хоць рэзананс, хай невялікі, але ў інтэрнэце быў. Вядома, не расстройваюся і не завяршу на гэтым пачатае. Працяг у любым выпадку будзе. Хочацца, каб акцыя стала не толькі пачынаннем групы людзей ці арганізацыі, а каб у горадзе ды раёне яе прынялі.

Таксама ў службе таксі збіраюцца ўнесці карэктывы ў афармленне машын і салонаў з улікам гэтай акцыі.

– У Вілейцы акцыя пачалася і будзе праходзіць далей. Хлопцы з таксі ў любым выпадку падтрымаюць акцыю і будуць удзельнічаць, – даводзіць Аляксандр. – Калі ўсё атрымаецца, гэта група стане пачаткам валанцёрскага руху. Запрашаю неабыякавых людзей стаць валанцёрамі. Калі хтосьці захоча звярнуцца і падтрымаць акцыю з суседніх рэгіёнаў, напрыклад, Маладзечна, Смаргоні, з задавальненнем падтрымаю, складзём сумесны план.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

БУДАЎНІЦТВА

# Прадпрыемства "МІГ-07" збіраецца аспрэчыць знос павільёнаў на Цэнтральнай плошчы ў судзе

МАЛАДЗЕЧНА

**Пра гэта "Рэгіянальнай газеце" расказаў дырэктар ТАА "Міг-07" Іван Мятліцкі.**

У мінулым нумары "РГ" пісала, што ёсць рашэнне на знос гандлёвых павільёнаў на Цэнтральнай плошчы, якія маладзечанцы называюць "сцякляшкамі".

Пакуль рашэнне суда не ўступіла ў сілу. Ва ўласніка зямельнага ўчастка ёсць 10 дзён, каб аспрэчыць рашэнне ў судзе. Калі гэтага не будзе, праз 10 дзён, а іменна 26 верасня, можна будзе агучваць дату зносу крамаў на плошчы.

– Вядома, мы будзем аспрэчваць гэтае рашэнне ў судзе, – тлумачыць дырэктар ТАА "МІГ – 07" Іван Мятліцкі. – За нашых арандатараў я буду змагацца. Цяпер у магазінах і кавярні агулам працуе 21 чалавек. Людзі напалоханыя, што застануцца без працы. Я яшчэ б зразумеў, каб на гэтым месцы нешта планавалася будаваць. А так на мінулым пасяджэнні суда прадстаўнікі Маладзечанскага райвыканкама самі сказалі, што ў бюджэце няма грошай на будоўлю і інвестараў таксама няма. І што, знясуць магазіны і будзе голае поле?

### Удакладненне

У нумары 38 ад 18 верасня матэрыял "На плошчы знясуць гандлёвыя рады" патрабуе ўдакладнення.

На месцы стаянкі з'явіцца будынак адміністрацыйнага прызначэння. Будынкі, пра якія ішла гаворка ў матэрыяле, былі прадугледжаныя старым генеральным планам забудовы горада.

Прапановы для інвестараў можна пабачыць на сайце Маладзечанскага райвыканкама: www.molodechno.minsk-region.by/ru/economy/invest.

**Наталля ТУР.**

● ЭКАЛОГІЯ

# Вугра везлі ў спецкантэйнеры і на маленькай хуткасці

МЯДЗЕЛ

**Упершыню за 10 год возера ў Нарачанскім краі зарыбілі вугром.**

Апошні раз нарачанскія азёры зарыблялі вугром у 2005 годзе. А 10 верасня ў возера Свір выпусцілі больш за 4500 малявак вугра.

Дзіўная рыба вугор нерастуе за многія тысячы кіламетраў ад Нарачы – у Саргасавым моры. Лічынкі яго, падхопленыя цёплым цячэннем Гальфстрым, нясуцца да берагоў Еўропы. Гэты шлях займае некалькі год.

– Але да нарачанскіх азёр вугор даўно не здольны даплыць. Таму што на буйных рэках пабудаваныя гідраэлектрастанцыі і плаціны. Таму і трэба праводзіць зарыбленне, – тлумачыць навуковы супрацоўнік Нацыянальнага парку "Нарачанскі" **Вольга Яжова**. – Некаторыя віды рыб трапляюць у нарачанскія азёры рэгулярна: іх вырошчваюць ва ўласным рыбагадавальніку ці купляюць у рыбагадоўчых гаспадарках. А вугром азёры даўно не зарыблялі з-за адсутнасці ўласнага пасадачнага матэрыялу і высокага яго кошту.

### Падгадаваны ў Беларусі вугор замест англійскага

Дзесяць год таму лічынкі вугроў дастаўлялі ў Беларусь самалётам з Лондана. Цяпер жа ў возера Свір пасялілі вугроў, падгадаваных у Беларусі: упершыню пасадачны матэрыял вугра для зарыблення нарачанскіх азёр вырашчаны ў спецыялізаванай рыбагадоўчай фермерскай гаспадарцы "Актам Фіш" з Мёрскага раёна.

– З Вялікабрытаніі дастаўлялі лічынкі, а тут быў падгадаваны вугор. Шанцы для яго выжывання ў возеры значна большыя, – кажа Вольга.

Фінансавалася зарыбленне з абласнога бюджэту. Аперацыя па дастаўцы малявак вугра да возера была незвычайная. Удзельнічалі ў ёй каля дванаццаці чалавек. Калі любую рыбу можна закінуць проста ў кантэйнер, то для вугроў стварылі асаблівыя ўмовы. Транспартавалі іх у спецыяльным кантэйнеры. Ваду туды забіралі з акварыумаў, дзе вугры гадаваліся. У сярэдзіне кантэйнера борцікі зрабілі: трэба, каб вада мінімальна боўталася. І везлі акуратна, на маленькай хуткасці.

У Свір выпусцілі вугроў даўжынёй ад шасці да 60 сантыметраў. Ім спатрэбіцца ад трох да пяці год, каб вырасці да прамысловых памераў. За гэты час яны могуць рассяліцца па бліжэйшых рэчках і ў возеры Вішнеўскае.



Вэнджаны вугор – вядомы нарачанскі далікатэс, для многіх турыстаў – адзін з сімвалаў адпачынку на Нарачы. Улетку ў краме ў курортным пасёлку Нарач (Купа) кілаграм вэнджанага вугра каштаваў 600 тысяч рублёў.

Фота забяспечана Нацыянальным паркам "Нарачанскі".

У возера Свір выпускаюць вугроў.



Алесь ВЫСОЦКІ
alvy@tut.by

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 17.09 руб. | 24.09 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 17 720,00 | **17 603,00** |
| Еўра | 19 947,00 | **19 579,00** |
| Злоты | 4 740,76 | **4 660,52** |
| Расійскі рубель | 268,80 | **266,13** |
| Грыўня | 811,91 | **815,90** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 23.09** | | |
| Еўра | 19900/20100 | **19500/19700** |
| Долар ЗША | 17700/17800 | **17500/17620** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 16.09 | Цана руб. |
|---|---|---|
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 139 900 | **139 900** |
| Сасіскі, 1 кг | 53 800 | **53 800** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 26 800 | **26 800** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 95 000 | **90 000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 37 900 | **37 900** |
| Селядзец, 1 кг | 49 500 | **49 500** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 115 000 | **105 000** |
| Рыс, 0,9 кг | 13 500 | **13 500** |
| Грэчка, 0,8 кг | 12 000 | **15 500** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 10 000 | **10 000** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 23 000 | **23 500** |
| Маянэз, 200 г | 5 000 | **5 000** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14 500 | **14 500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 39 500 | **39 500** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 11 000 | **12 500** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 6 900 | **4 900** |
| Капуста, 1 кг | 4 900 | **4 900** |
| Морква, 1 кг | 5 900 | **5 900** |
| Баклажаны, 1 кг | 9 900 | **12 500** |
| Лімоны, 1 кг | 39 500 | **39 500** |
| Апельсіны, 1 кг | 27 900 | **27 900** |
| Мандарыны, 1 кг | 29 900 | **29 900** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 29 900 | **29 900** |
| Ківі, 1 кг | 37 500 | **24 900** |
| Нектарыны, 1 кг | 26 900 | **24 500** |
| Буракі, 1 кг | 5 900 | **5 900** |
| Памідоры, 1 кг | 7 500 | **6 900** |
| Агуркі, 1 кг | 5 900 | **9 900** |
| Перац, 1 кг | 11 900 | **9 900** |
| Вінаград, 1 кг | 26 500 | **24 500** |
| Бананы, 1 кг | 21 500 | **21 900** |
| Кавун, 1 кг | 4 500 | **3 500** |
| Дыня ("тарпеда"), 1кг | 12 000 | **10 000** |
| Яблыкі, 1 кг | 9 900 | **9 900** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 21 000 | **17 900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15 000 | **15 000** |
| Масла, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | **55 000** |
| Бульба, 1 кг | 4 000 | **4 000** |
| Сала, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 25 000 | **25 000** |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | **60 000** |

● ПЫТАЙЦЕСЯ-АДКАЗВАЕМ

## У Хажове пачала працаваць тэлевышка

МАЛАДЗЕЧНА

**Будаўніцтва пачалі ў красавіку, а здалі аб'ект у ліпені.**

Чытач "РГ" звярнуўся ў рэдакцыю з просьбай патлумачыць, якія перавагі дае пабудова.

На пытанне адказвае начальнік Маладзечанскага вузла электрасувязі **Канстанцін Ратамскі**.

Раней маладзечанцы прымалі сігнал з радашкавіцкай, смаргонскай, любанскай і валожынскай тэлевышак. Сацыяльны пакет, які ўключае восем каналаў, можна было глядзець у нармальнай якасці. А вось астатнія камерцыйныя каналы маглі мець перашкоды ў трансляцыі.

Цяпер жа тэлевышка ў Хажове мае тры перадатчыкі. Адзін з іх забяспечвае якасны прагляд сацыяльнага пакета, а два – камерцыйных каналаў.

Маладзечанцы атрымалі ўпаўнены прыём 44 каналаў.

Новая антэна на вышцы дазваляе без перашкод слухаць Беларускае радыё на частаце 96,6 мГЦ па ўсім раёне. Раней Маладзечаншчына была ў зоне няўпэўненага прыёму.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**




Сварка 80-гадовай пары скончылася смерцю абаіх.

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

# Пенсіянер забіў сужытніцу і павесіўся

АШМЯНЫ, ВАЛОЖЫН

**Здарэнне адбылося ці 15, ці 16 верасня каля чацвертай дня ў вёсцы Драглеўцы Ашмянскага раёна.**

Следчыя мяркуюць, што паміж 84-гадовым мужчынам і яго 85-гадовай сужытніцай узнікла бытавая спрэчка. Мужчына ўдарыў жанчыну па галаве. Яна атрымала чэрапна-мазгавую траўму, праз гэта і памерла.

Калі мужчына зразумеў, што зрабіў, паехаў у вёску Дзясятнікі Валожынскага раёна да сына. Там павесіўся.

– Спачатку знайшлі труп мужчыны, – расказвае начальнік райаддзела Следчага камітэта Ашмянскага раёна **Віктар Дамуць**. – Пачалі шукаць сваякоў памерлага, патэлефанавалі і сужытніцы. Яна не адказвала, звязаліся з дачкой. Тая таксама не ведала, што з маці. Калі жанчына прыехала ў вёску, дзе жыла маці, знайшла яе труп.

Цяпер ідзе судова-медыцынская экспертыза, высвятляюць матывы злачынства.

**Галіна СІНІЦА.**

## Аварыя: пешаход быў у капюшоне, а кіроўцу асляпіла сустрэчная машына

МАЛАДЗЕЧНА

**Здарэнне адбылося 20 верасня а восьмай вечара па вуліцы Касманаўтаў. 38-гадовы кіроўца БМВ наехаў на 16-гадовага хлопца.**

Як прызнаецца кіроўца, на вуліцы ішоў дождж, таму ён не адразу заўважыў, як пешаход выйшаў з-за сустрэчнай машыны, якая асляпіла яго фарамі. Каб пазбегнуць сутыкнення, мужчына націснуў на тармазы і вывернуў руль. Аднак удару не ўдалося пазбегнуць.

Малады чалавек гаворыць, што як пераходзіў дарогу, то паглядзеў направа, адна машына спынілася. Налева ён не зірнуў, таму не ўбачыў машыну, тым больш сам быў у капюшоне. Разам з хлопцам была дзяўчына, але яна ўбачыла машыну, своечасова спынілася. Яна не пацярпела.

Маладзёна з Вілейскага раёна з разнастайнымі траўмамі даставілі ў бальніцу. У яго закрытая чэрапна-мазгавая траўма, пералом правай лобнай пазухі, драпіны на твары, удар правай галёнкі.

Пра здарэнне расказаў дзяржаўтаінспектар Маладзечанскай ДАІ **Сяргей Бартош**.

**Галіна СІНІЦА.**

ПАЛЯВАННЕ

## Забілі казулю

ВІЛЕЙКА

**Ноччу 12 верасня ў Мядзельскую міжрайінспекцыю аховы жывёльнага і расліннага свету паступіла інфармацыя ад Вілейскай структуры таварыства паляўнічых і рыбаловаў.**

Каля вёскі Журыхі на Вілейшчыне праводзілася паляванне, і на палетку паляўнічыя заўважылі і спынілі падазронага мужчыну. У яго пры сабе быў цеплавізар.

Выклікалі супрацоўнікаў міжрайінспекцыі. І ў сотні метрах знайшлі застрэленую казулю. Мужчына адмаўляе, што гэта ён забіў жывёлу, расказаў начальнік Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету **Валеры Кляноўскі**.

Як было на самай справе, будуць высвятляць следчыя органы – матэрыялы перадалі туды.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Даведка "РГ".** Цеплавізар – прыбор, які дазваляе ў рэальным часе назіраць размеркаванне і рух цяпла і холаду.

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Нават не паспелі спужацца. Перакуліўся паўпрычэп з дранкай

ВІЛЕЙКА

**"На дарозе ад Сосенкі да Старынак перавярнулася фура з дранкай. На крутым павароце, дзе кожны год перакульваюцца машыны", паведаміў чытач "Рэгіянальнай газеты".**

Падрабязней пра здарэнне расказаў інспектар ДПС аддзялення ДАІ Вілейскага РАУС **Андрэй Дубавец**:

– Каля 18 гадзін 17 верасня фура рухалася па аўтадарозе Барысаў-Ашмяны ў бок Вілейкі. Непадалёку ад вёскі Сосенка яе кіроўца з Бабруйска пры выбары хуткасці не ўлічыў асаблівасць транспартнага сродку і дапусціў перакульванне паўпрычэпа. Сама машына не перакулілася, засталася на дарозе.

Кіроўца і пасажыр не пацярпелі, нават не паспелі спужацца.

**Аддзел інфармацыі.**

МЯЖА

## Схавалі ў лесе 30 тысяч пачак кантрабандных цыгарэт

АСТРАВЕЦ

**15 верасня на памежнай заставе "Маладзечанская" Астравецкага раёна памежнікі знайшлі кантрабандную прадукцыю.**

Невядомы схаваў 34 каробкі з цыгарэтамі беларускай вытворчасці ў лесе. Праз некалькі гадзін у Пастаўскім раёне знайшлі шэсць каробак з табачнымі вырабамі.

Усяго знайшлі 30 тысяч пачак цыгарэт. Цяпер высвятляюць агульную суму цыгарэт. Ідуць мерапрыемствы па пошуку асоб, датычных да гэтай справы.

**Паводле Дзяржпамежкамітэта.**

СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ

## Шукаюць, хто збіў дзяўчыну

МАЛАДЗЕЧНА

**У сераду, 9 верасня, каля 17:30 непадалёк ад гімназіі №10 збілі непаўналетнюю дзяўчыну.**

Невядомы адразу збег у парк.

Прыкметы нападніка: на выгляд 17-19 год, азіяцкая знешнасць, рост каля 180 сантыметраў, спартыўнага целаскладу.

На галаве была кепка, на якую нацягнуў чырвоны капюшон, апрануты ў цёмныя завужаныя спартыўныя штаны.

Па гэтым факце Маладзечанскі райаддзел Следчага камітэта ўзбудзіў крымінальную справу.

Пераканаўча просім, калі вы штосьці ведаеце пра гэта здарэнне, пазваніце па нумары (80176) **77-15-33** ад 9 да 18 гадзін у рабочыя дні.

**Паводле паведамлення Маладзечанскага райаддзела Следчага камітэта.**

## Знік мужчына з вёскі Макарынята

ВАЛОЖЫН

**Валожынскі райаддзел Следчага камітэта шукае Міхаіла Іосіфавіча Язерскага.**



Нарадзіўся 26 лістапада 1967 года. Жыве ў вёсцы Макарынята Валожынскага раёна.

22 жніўня каля 19 гадзін мужчына выйшаў з дому. Дзе ён, дагэтуль невядома.

**Прыкметы зніклага**. На выгляд 45-50 год, рост 170-180 сантыметраў, хударлявы. Смуглы твар, блакітныя вочы, светла-русыя каротка стрыжаныя валасы. Моцны голас, яснае маўленне, гаворыць марудна. Памер абутку 42-43, шпаркая паходка.

**Асаблівыя прыкметы**: курыць, на правай руцэ не згінаецца безыменны палец і мезенец.

Калі вы ведаеце, дзе зніклы, просім паведаміць па нумарах: (801772) **5-53-02**, **5-40-21**, (8029) **685-53-02**, **507-66-98** ці **102**.

**Валожынскі райаддзел Следчага камітэта.**

● ХАРЧАВАННЕ

# Дзеці любяць курыныя катлеткі і не ядуць рыбу

МАЛАДЗЕЧНА

**"РГ" вырашыла высветліць, што было на абед у сераду, 23 верасня, у школах Маладзечна, Вілейкі і Гальшанаў.**




Фота Наталлі ТУР.

Калі мы завіталі ў маладзечанскую гімназію №3, дырэктар яе **Віталь Крупянькоў** з парога адказаў:

– Вы выбралі правільную школу, каб расказаць пра абеды. Калектыў повараў у нас дружны, працуюць разам многія гады.

Гаспадарыць тут шэф-повар **Часлава Валовік**.

– Поварскі стаж у мяне каля 40 гадоў, 20 з іх я працую поварам у трэцяй школе.

Часлава Яўгенаўна кажа, што меню ў школьных сталовых мяняецца кожны навучальны год.

– Раней у школьныя меню былі ўключаныя субпрадукты – пячонка, сэрцы. Цяпер іх няма.

**Штодзень у сталовай ядуць прыкладна 380 вучняў.**

А яшчэ школьнікі могуць радавацца таму, што манная кашы з ненавіснымі камячкамі таксама няма.

– Калі гаварыць пра любімыя стравы нашых школьнікаў, то на першым месцы, вядома, курыныя катлеты з бульбяным пюрэ.

А вось рыбу дзеці не любяць.

– Прама сэрца крывёй абліваецца, калі бачыш, як дзіця прыбірае са стала некранутую гарбушу.

У гімназіі, як і ў іншых школах, практыкуюцца рыбныя або іншыя дні.

– У пятніцу ў нас малочны дзень. Гэта значыць, на першае будзе малочны суп, на другое – сырнікі.

У панядзелак па нормах санстанцыі дзень кілбасы, бо захоўваць яе доўга нельга.

**– А калі дзіця папросіць дабаўкі, дасце?**

– Не, – строга адказвае Часлава Валовік. – У нас порцыі разлічаныя па колькасці дзяцей.

Але галоднымі дзеці не застаюцца.

Старшакласнікі, бывае, прыходзяць у сталовую ўжо на перапынках, калі ядуць малодшыя школьнікі. Там яны проста просяць у дзяцей не адносіць порцыі, калі раптам тыя не любяць рыбу ці не ядуць груцу.

А калі есці ў сталовай чарга саміх старшакласнікаў, то тут на дапамогу прыходзяць дзяўчаты. Яны, як жартуе повар, усе на дыетах. І проста адмаўляюцца ад свайго пюрэ і кормяць ім хлопцаў. Самі ж ядуць некаларыйныя салацікі з гародніны.



Сталовая ў гімназіі №3 Маладзечна.

Фота Наталлі ТУР.



Шэф-повар гімназіі №3 Часлава Валовік.

Фота Наталлі ТУР.

**Абед, які складаецца з супу, гарачай стравы, гарніру, салаты і кампоту каштуе прыкладна 16 тысяч рублёў.**

Акрамя школьнікаў, у трэцюю гімназію ходзяць абедаць "суседзі" – работнікі спартыўнай школы, ДТСААФа і лясніцтва.

У сераду на абед прапаноўвалі вараную капусту, гуляш, макарону, салату са свежай капусты і бярозавы сок.

## У гальшанскай школе самы смачны боршч

У гальшанскай школе на абед сёння таксама быў гуляш з тушанай бульбай, вінегрэт і чай.

Пра абед распавяла вучаніца гэтай школы **Вікторыя Янушкевіч**:

– Я не ведаю, колькі каштуе абед, таму што мы ядзім у сталоўцы бясплатна.

Самы любімыя стравы ў Вікі – гэта боршч і салата з памідораў.

– А расольнік не люблю, бо ён заўсёды кіслы. Яшчэ цярпець не магу тушаную бульбу!

## Сакрэт смачнага харчавання – у параканвектамаце

Расказвае **Дар'я Стоніс**, дзесяцікласніца вілейскай гімназіі №1 "Логас":

– Сёння на абед у нас былі курыныя тэфтэлі, рагу з гародніны, салата са свежай гародніны і сок. Абеды мне падабаюцца, пастаянна мяняюцца гарніры. Любімыя стравы: курыныя катлеты і тэфтэлі.

Каштуе абед ад шасці да 10 тысяч рублёў.

Дарэчы, у мінулым навучальным годзе ў гімназіі з'явіўся параканвектамат. Прыгатаваная на ім ежа атрымліваецца больш здаровай, сакавітай і смачнай.

**Даведка "РГ". Параканвектамат** – від пераважна прафесійнага кухоннага цеплавога абсталявання, які выкарыстоўвае розныя рэжымы спалучэння пары і прымусовай канвекцыі для прыгатавання ежы.

**Наталля ТУР, Алесь ВЫСОЦКІ.**

● ПСІХОЛАГ РАІЦЬ

# 30 пытанняў, якія варта задаваць бацькам сваім дзецям-школьнікам

МАЛАДЗЕЧНА

**Усім бацькам цікава ведаць, што адбываецца з дзіцем у школе, але часта яны сутыкаюцца з цяжкасцямі.**

У канцы школьнага дня задаюць пытанне, як справы ў школе, і атрымліваюць фармальны адказ "добра", "нармальна".

У сувязі з гэтым бацькам цяжка даведацца, што адбываецца з дзіцем, што яго хвалюе, што падабаецца і цікавіць больш за ўсё.

Прапаную вашай увазе 30 альтэрнатыўных пытанняў, якія дапамогуць уцягнуць дзіця ў размову пра школу:

1. Што табе запомнілася ў школе больш за ўсё?
2. Што сёння табе больш за ўсё спадабалася?
3. Што цябе больш за ўсё рассмяшыла ў школе?
4. Што цябе сёння здзівіла?
5. Калі б ты мог выбіраць, з кім бы з аднакласнікаў хацеў сядзець за партай? Чаму?
6. З кім табе не хочацца сядзець за партай? Чаму?
7. Якое самае любімае месца ў цябе ў школе?
8. Якое самае незвычайнае слова ты сёння пачуў у школе?
9. Калі б увечары я патэлефанавала тваёй настаўніцы, як думаеш, што яна расказала б пра цябе?
10. Якія добрыя справы ты сёння зрабіў у школе?
11. Каму ты сёння дапамог у школе?
12. Ці дапамагаў табе хто-небудзь?
13. Што новага сёння ты даведаўся ў школе?
14. Што цябе больш за ўсё парадавала?
15. Ці было табе сумна на ўроках? На якім?
16. Калі б карабель іншапланецян прызямліўся ў тваім класе, каб забраць некага з дзяцей, каго б ты хацеў, каб забралі?
17. З кім ты гуляў на перапынку? З кім не?
18. З кім з дзяцей табе хацелася б пасябраваць?
19. Раскажы мне штонебудзь добрае, што адбылося з табой у школе?
20. Якое слова на ўроках настаўнік паўтараў часцей за ўсё?
21. Як ты лічыш, што табе трэба часцей за ўсё рабіць у школе?
22. Што табе менш за ўсё хочацца рабіць у школе?
23. Да каго ў тваім класе ты можаш адносіцца дабрэй, чым да іншых?
24. Дзе ты часцей за ўсё гуляеш (адпачываеш) у час перапынку?
25. Хто самы вясёлы ў тваім класе? Чаму?
26. Што сёння было самае смачнае на абед?
27. Калі б ты заўтра стаў настаўнікам, што б зрабіў першай справай?
28. Калі б ты мог памяняцца месцамі з кімнебудзь у класе, з кім бы памяняўся? Чаму?
29. Ці ёсць нехта з аднакласнікаў, з кім не хочацца размаўляць?
30. На якім уроку ты сёння выкарыстоўваў простыя аловак? Што ты ім пісаў?

Гэты спіс можа працягнуць кожная мама альбо тата. Адказы на гэтыя пытанні вы можаце атрымаць самыя нечаканыя. Важна памятаць, што "правільных" альбо "няправільных" няма.

Самае галоўнае, каб дзіця падзялілася з вамі, і тады ў вас будзе магчымасць даведацца пра яго больш. Жадаю вам узаемаразумення з вашымі дзецьмі, цярпення і мудрасці.



Таццяна ЖДАНАВА псіхолаг

● ІМПРЭЗЫ

# "РГ" ладзіць сустрэчу з чытачамі ў Ільі

**Рэдакцыя "Рэгіянальнай газеты" завітае ў ільянскую школу ў пятніцу, 25 верасня.**

Сустрэча пройдзе падчас чацвертага ўрока, пасля 11:45.

**Падчас імпрэзы выступіць беларускі гурт "Гутатэлі".**

Запрошаныя школьнікі, настаўнікі і зацікаўленыя жыхары мястэчка.

**Аддзел інфармацыі.**

КНІГІ

# Часцінка Беларусі, якую захавалі ў Латвіі

## Міхась Казлоўскі і Сяргей Панізьнік выдалі кнігу выбраных твораў Вольгі і Сяргея Сахаравых

МАЛАДЗЕЧНА

**“А што, Латвія ўваходзіла ў склад Заходняй Беларусі?” – з такім непаразуменнем сутыкнуўся краязнаўца і пісьменнік Міхась Казлоўскі, калі распавядаў, што рыхтуе кнігу пра руплівцаў беларушчыны ў міжваенны перыяд на латвійскай зямлі.**

Гэта толькі яшчэ больш упэўніла ў тым, што неабходна не толькі апублікаваць працы **Вольгі** і **Сяргея Сахаравых**, але і падрабязна апісаць краіну і час, у якіх яны працавалі.

Ідэя стварыць том, прысвечаны сямейнай пары Сахаравых, належыць паэту і журналісту **Сяргею Панізьніку**. Ён даўно хацеў выдаць кнігу і звярнуўся да Міхася Казлоўскага па дапамогу.

Панізьнік лічыць іх знакавымі асобамі ў беларускім культурна-асветным руху міжваеннай Латвіі. Такіх постацяў вылучаюць дзве – **Кастусь Езавітаў** і Сяргей Сахараў. Казлоўскі жартам называе іх беларуска-латышскімі Кірылам і Мяфодзіем.

Панізьнік захапіўся Сахаравымі з 70-х гадоў. Многія беларусы Латвіі дзяліліся матэрыяламі. У тым ліку дачка **Ірына Вількель-Сахарава** і ўнучка **Нона Ахметулаева**, якая цяпер жыве ў Рызе. Дзякуючы архіву кніга аздобленая сямейнымі фотаздымкамі, выявай рукапіса, вокладкамі тагачасных выданняў.

### Як беларусаў паменела на 37 тысяч

У прадмове Міхась Казлоўскі імкнуўся акрэсліць кантэкст дзейнасці Сахаравых, гістарычны фон, на якім ім давялося жыць і працаваць. Вольга і Сяргей пабраліся шлюбам у 1905 годзе. Першую сусветную перажылі ў Юр'еўскім (Тартускім) павеце. Пасля Люцынская гарадская рада запрасіла Сяргея Сахарава на пасаду дырэктара мясцовай гімназіі. У той час у сям'і ўжо былі дочкі Галіна і Ірына. Пасля прызначылі кіраўніком Беларускага аддзела пры Міністэрстве асветы Латвіі. Тут яны апынуліся ў эпіцэнтры змагання за беларускую справу і сталі яе часткай.

А ў 1925 годзе адбыўся суд над васьмю беларускімі настаўнікамі, якіх абвінавацілі “ў злачынным таварыстве ў Латгаліі, якое ставіць мэтай адарваць ад Латвійскай дзяржавы тэрыторыю Дзвінскага, Рэжыцкага, Люцынскага і часткова Ілукштанскага паветаў і далучыць іх да Беларускай дзяржавы”. Вынікам такой агрэсіі да праяў беларушчыны сталі лічбы Усе-латвійскага перапісу насельніцтва.

**Калі ў 1920 годзе беларусамі сябе назвалі 75 650 чалавек, то ўжо ў 1925 – 38 010.**

Такое памяншэнне невыпадковае на беларускіх этнічных землях, якія да рэвалюцыі ўваходзілі ў склад Віцебскай губерні, а да Латвіі далучаныя ў 1920 годзе са згоды Леніна.

### Дух часу і подых эпохі

Пры гэтым Сахаравы былі не толькі педагогамі, пра якіх са шчырай падзякай узгадвалі вучні. Сяргей Сахараў збіраў этнаграфічныя матэрыялы, займаўся публіцыстыкай. Яго жонка пісала вершы і драматургічныя творы.

Вершы Вольгі з тэхнічнага пункту гледжання не вельмі дасканалыя, але гэты іх недахоп кампенсуецца шчырасцю, у іх адчуваецца дух часу і подых эпохі, зазначае ўкладальнік. А стаўленне да драматургіі ў яго праходзіла своеасаблівую эвалюцыю. Прачытаўшы іх гадоў з 10-15 таму, спачатку паставіўся да твораў даволі крытычна. А прачытаўшы другі раз, заўважыў шмат вартага і для друкавання, і для абмеркавання.

– Здавалася б, п'есы не адзначаюцца драматургічнымі знаходкамі, яркімі персанажамі, але яны дораць нечаканае адчуванне сонечнасці і святла, – гаворыць Міхась Казлоўскі. – Часам творы варта перачытваць, бо самае галоўнае пасля першага прачытання я не заўважыў. Ці знойдзецца драматург, які надасць ім другое жыццё?

Асаблівую каштоўнасць укладальнік бачыць у працы “Народная творчасць латгальскіх і ілукстэнскіх беларусаў”, для якой Сяргей Сахараў не толькі сабраў этнаграфічны матэрыял, але і па-майстэрску апрацаваў.

Краязнаўца адзначае, што Сяргей Сахараў спалучае выдатныя якасці грамадзяніна і асобы, творцы і знакавай постаці. Гэта адлюстроўвае блок успамінаў пра яго і яго жонку.

Як і многіх дзеячаў беларускага адраджэння, Сахарава напаткаў трагічны лёс. Дачка Галіна загінула, прыёмны сын прапаў, жонка пайшла з жыцця раней часу. А ў 65 год чакала пяцігадовая ссылка.

– Мы не павінны забывацца, што адбывалася ў трагічны і велічны міжваенны перыяд, – падкрэслівае краязнаўца. – Былі беларускія арганізацыі ў Чэхаславакіі, ЗША, Францыі. Згадкі пра іх робяць нас нашмат багацейшымі. Даюць прыклад, як трэба працаваць, не звяртаючы на сітуацыю, час і неспрыяльнасць.



Фота з кнігі “Вольга Сахарава, Сяргей Сахараў. Выбраныя творы”.

**Сяргей і Вольга Сахаравы з дочкамі Ірынай і Галінай. Лецішча, 27 ліпеня 1930 года.**

“Паглядзіце, на што накіраваны зараз высілкі і геніяльнасць чалавецтва. Толькі на вонкавы дабрабыт нашага жыцця, на развіццё тэхнікі і прамысловасці... Ідзіце ў народ, патаўчыцеся на рынках, прыслухайцеся да таго, што кажуць, аб чым думаюць, тужаць, – і вы ўбачыце, наколькі цікавае жыццё і колькі ўсюды неабходнай, жывой, прыгожай працы”.

**“Дабро і харáство ў жыцці”. Сяргей Сахараў.**

“Бывала, зловіць па радыё беларускую перадачу, то кідаў усё, сядаў і слухаў, заклікаў іншых... Сем'янінам ён быў бельмі добрым: клапатлівым, выключна пяшчотным і любячым бацькам... У ежы быў больш вегетарыянцам. Здаралася, на абед рэжуць курыцу, ён ведае, што яе гатуюць, то не еў мяса зусім ці з вялікай неахвотай... Узыхаючы, любіў гаварыць: “Грахі нашы цяжкія”... Гадзіны за чатыры да канчыны, не расплюшчваючы вочы, сабраў апошнія сілы і, ледзь варушачы языком, даваў апошнія распараджэнні пра пахаванне, а таксама пра свае працы, фальклор”.

**“Успаміны пра майго бацьку Сахарава Сяргея Пятровіча”. Ірына Вількель-Сахарава.**



Зоя ХРУЦКАЯ
ripenie@yandex.by

---

ПАМЯЦЬ

## У Вілейцы адкрыюць браму-капліцу ў гонар загінулых у Першай сусветнай

ВІЛЕЙКА

**Адбудзецца гэта 26 верасня – у межах мерапрыемстваў, прысвечаных 100-годдзю вызвалення Вілейкі ад кайзераўскіх войскаў.**

Зранку пройдуць памінальныя службы ў вілейскіх храмах. А 11-й гадзіне пачнецца хросны ход да гарадскіх могілак.

На 11:45 запланавана адкрыццё брамы-капліцы ў гонар загінулых у Першай сусветнай вайне салдат.

Знаходзіцца яна на ўваходзе на гарадскія могілкі па вуліцы 1 Мая. Сродкі на будаўніцтва брамы збіралі ўсёй грамадой.

Пройдзе ўрачысты марш рэканструктараў з ваенна-гістарычных клубаў. Прыедуць яны з розных гарадоў Беларусі, расказаў дырэктар Вілейскага краязнаўчага музея **Сяргей Ганчар**.

У 13 гадзін у кінатэатры “Мір” пакажуць літаратурна-музычную кампазіцыю “З вайны лісткі паходнага сшытка” і дакументальны фільм.

Пройдзе прэзентацыя кніг, прысвечаных Першай сусветнай. Аўтар адной з іх – пісьменнік і журналіст **Вячаслаў Бандарэнка**.

Сааўтарам другой, “На лініі агню. Відавочцы аб баях за Вілейку ў верасні 1915 года”, стаў навуковы супрацоўнік Вілейскага краязнаўчага музея **Андрэй Каркотка**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

---

КОНКУРСЫ

## Марына Вярэніч з Мядзельшчыны стала лаўрэатам конкурсу “Заспявай 2.0”

МЯДЗЕЛ

**У конкурсе ўдзельнічалі маладыя выканаўцы ўзростам да 27 год. Усяго падалі 50 заяў.**

Аргкамітэт конкурсу “Заспявай 2.0” вызначыў уладальніка Гран-пры, двух лаўрэатаў і адзначыў спецпрызамі яшчэ трох выканаўцаў, паведамляе tuzin.fm.

Лаўрэаткай конкурсу ў намінацыі “Спяваная паэзія” стала **Марына Вярэніч** за песню “Чаму мы стрэліся ня ў час”. Створаная яна на верш **Тацяны Дзям'янавай**.

Марына Вярэніч расла на Мядзельшчыне, вучылася ў Занарацкай школе. Скончыла вакальнае аддзяленне Маладзечанскага музычнага каледжа імя Агінскага. Працавала некалькі год у Мядзельскім ГДК. Цяпер вучыцца ў Інстытуце сучасных ведаў, працуе ў тэатральна-эстраднай студыі “Талент Груп” у Мінску.

**Аддзел інфармацыі.**

---

ГІСТОРЫЯ

## У Заброддзі пройдзе ваенна-гістарычная рэканструкцыя

ВІЛЕЙКА

**Адбудзецца яна 26 верасня. Мерапрыемствы пройдуць у вёсцы Заброддзе Вілейскага раёна, дзе створаны мемарыяльны комплекс “Памяці падзей Першай сусветнай вайны”.**

Прысвячаецца рэканструкцыя 100-годдзю вызвалення Вілейкі і Вілейшчыны ад кайзераўскіх войскаў.

У праграме – эпізоды бою 1915 года, ваенны палатачны лагер, палявая шурпа. У рэканструкцыі будуць удзельнічаць прадстаўнікі ваенна-гістарычных клубаў з Мінска, Брэста, Гомеля, расказаў мастак **Барыс Цітовіч**.

Папярэдне пачатак прызначаны на 15 гадзін. Уваход на рэканструкцыю – вольны.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

СВЯТЫ

# У Мядзеле частавалі разборным караваем і жадалі гораду квітнець

МЯДЗЕЛ

**– Частуйцеся, калі ласка! – прапаноўвала на свяце Мядзела 19 верасня Антаніна Чарняўская.**

Запрашала яна пакаштаваць адмысловы разборны каравай.

– Ён таму так называецца, што нажа не трэба, – тлумачыць яна. – Адломваеш кавалачак і частуеш. Вось адзін каравай ужо з'елі.

Побач іншыя мядзяльчанкі паказвалі, чым захапляюцца. Хто вяжа прыгожыя рэчы, хто цікавыя вырабы стварае, а некаму фотамастацтва даспадобы, як **Юліі Пацяюн**.

– Выбірайце, дзяўчаткі, бо ў іх выразы твараў розныя, – раіў юным мядзяльчанкам, якія прыглядаліся да керамічных фігурак, дырэктар Крывіцкага цэнтра народных рамёстваў **Уладзімір Гаранін**.

На свята з Крывічоў прывезлі шмат сувеніраў з сімволікай Мядзела.

**– Які самы цікавы?**

– Пэўна, талерка з выявай мядзельскай царквы. Цікавыя і такія падстаўкі для рučак з гербам Мядзела. Тут яшчэ нешта накшталт цагліны са старога замка.

**Паказвалі, якія яны творчыя, людзі з абмежаванымі магчымасцямі.**

Былі яны і з Мядзела, і са Свірскага псіханеўралагічнага дома-інтэрната прыехалі з выставай.

## Ад Боны Сфорцы да пейнтбола

Свята горада ў Мядзеле праходзіла ў другі раз. У тэатралізаваным прадстаўленні "З глыбіні стагоддзяў" на сцэну выходзіла Бона Сфорца ды іншыя героі з гісторыі Мядзела.

Не яны адны былі ў старадаўніх строях: у цэнтры супрацоўніцы музея прапаноўвалі здзейсніць пешую экскурсію па горадзе.

Тым часам на сцэне віншавалі з залатым вяселлем сям'ю Яфімавых, наймалодшага і старэйшага жыхароў райцэнтра. Прымаў віншаванні і ветэран Вялікай Айчыннай вайны **Андрэй Каўрус**. Узнагародзілі пераможцаў конкурсу на лепшы кветнік. А на мітынгу-рэквіеме ўшанавалі памяць загінулых салдат.

Праходзілі спартыўныя спаборніцтвы, былі разнастайныя забавы для дзяцей. Маглі яны пастраляць не толькі ў ціры, але і з пейнтбольнага рыштунку. Юныя мастакі малявалі гарадскія краявіды.

На вуліцы Шаранговіча раскінулася "Кніжная алея". Тут мядзяльчан чакалі выставы кніг, можна было прысесці і пагартаць свежыя газеты і часопісы за кубачкам чаю. А меншым чытачам прапанавалі скласці пазлы – вядома, з мядзельскімі славутасцямі.

Мядзяльчане пісалі пажаданні гораду і размяшчалі іх на стэндзе. Найчасцей жадалі "Квітнення". Хто па-філасофску зычыў: "Пабольш дабрыні мядзельскім людзям". Іншыя пераходзілі да пажаданняў-просьбаў: "баскетбольнай пляцоўкі" і "бясплатнага wi-fi".

Алесь ВЫСОЦКІ.


Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Антаніна Чарняўская частуе караваем.

● ГІСТОРЫЯ

# Вілейскія вайсковыя брацкія могілкі

ВІЛЕЙКА

**Некалі віляйчан хавалі на могілках, якія знаходзіліся на месцы сённяшняй плошчы Свабоды, там, дзе стаяла ўніяцкая Свята-Троіцкая царква. Калі там не стала хапаць месца, людзей пачалі хаваць за рысай горада, у залежнасці ад вываразнання.**



Фота забяспечана Вольгай КОЛАСАВАЙ.

Вываз цела штабс-капітана Падбелы на станцыю Вілейка пасля адпявання ў Свята-Мікалаеўскай капліцы. 1917 год.

З часам у горадзе ўтварылася трое могілак: праваслаўныя, каталіцкія і яўрэйскія. Праваслаўныя сталі хаваць на месцы сённяшніх цэнтральных могілак, што месцяцца па вуліцы 1 Мая.

## Пахаванні салдат, якія загінулі падчас бою за Вілейку ў 1915 годзе

У верасні 1915 года падчас бою за Вілейку загінула шмат салдат. Іх хавалі за гарадскімі праваслаўнымі могілкамі. Па дакументах Расійскага дзяржаўнага ваенна-гістарычнага архіва (РДВГА) і Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі яны сталі вядомыя, як Вілейскія вайсковыя могілкі за турмой, Вілейскія вайсковыя брацкія могілкі, Вайсковыя могілкі ў горадзе Вілейка па вуліцы Нароцкай (цяпер 1 Мая).

Першымі пахавалі салдат і афіцэраў, якія загінулі ў баях за вызваленне горада і станцыі Вілейка. Пазней тут сталі хаваць і памерлых ад ран і хвароб у шпіталях і лазарэтах, размешчаных у Вілейцы.

У 1917 годзе на могілках была пабудаваная драўляная царква Адсячэння галавы Іаана Прадцечы. Яна была прыпісаная да Свята-Марыінскага храма.

Дакладную колькасць пахаваных салдат на вайсковых брацкіх могілках устанавіць не ўяўляецца магчымым. Можна сцвярджаць, што не менш за 500 чалавек. На архіўных схемах РДВГА 1916 года бачна, што на ваенных вайсковых могілках было восем радоў, у радзе – каля 60-70 магіл. Магілы былі як адзіночныя, так і брацкія.

Вось што напісана ў архіўнай выпісцы: "Рады прадуктовага транспарту 20-га армейскага корпуса **Белкін Герасім Дзмітрыевіч** быў пахаваны 2 жніўня 1916 года ў брацкую магілу (пахаваныя тры чалавекі) у 7 радзе, магіла №62, калі лічыць з поўначы на поўдзень, а з поўдня на поўнач – №5".

Дзякуючы архіўным дакументам давялося ўстанавіць прозвішчы каля 300 чалавек, пахаваных на вайсковых брацкіх могілках. А таксама, якія шпіталі і лазарэты знаходзіліся ў Вілейцы, якія вайсковыя часці і падраздзяленні вялі тут баі, пра прымяненне авіяцыі і хімічнай зброі.

## Над салдатамі ляжаць мясцовыя жыхары

Падчас савецка-польскай вайны 1919-1920 гадоў на вілейскай зямлі загінула шмат польскіх салдат, якіх пахавалі за брацкімі вайсковымі могілкамі. На плошчы 45х50 метраў утварыўся ўчастак польскіх ваенных могілак, на якіх пахаваныя 234 чалавекі. Магілы захаваліся да нашых дзён.

На жаль, магілы рускіх салдат, якія загінулі ў баях за Вілейку ў верасні 1915 года, а таксама памерлых ад ран і хвароб, не захаваліся.

Спачатку была разабраная драўляная царква Іаана Прадцечы, якая стаяла на тэрыторыі вайсковых брацкіх могілак. У студзені 1939 года дах царквы праваліўся з-за вялікай колькасці снегу, яе стан стаў пагражаць бяспецы людзей. У 1950-я гады на тэрыторыі вайсковых могілак былі перапахаваныя астанкі вайскоўцаў Чырвонай Арміі і партызан, якія загінулі пры вызваленні Вілейкі ў ліпені 1944 года.

У 1960-1990 гадах зверху па вайсковых пахаваннях Першай сусветнай вайны былі пахаваныя памерлыя жыхары Вілейкі. Астанкі салдат так і ляжаць на тэрыторыі могілак знізу.

Да нашага часу захавалася толькі магіла **Фёдара Кандрацьевіча Альфрэда**, які загінуў у гады Першай сусветнай вайны. Ён быў прапаршчыкам 266-га пяхотнага Парэчанскага палка. Нарадзіўся ў Вілейцы 5 чэрвеня 1893 года. Загінуў у баі 1 красавіка 1916 года ў раёне возера Нарач. Яго цела было дастаўленае на радзіму і пахаванае на Вілейскіх гарадскіх могілках.

## Храм-помнік у імя Мікалая Цудатворца

Яшчэ ў жніўні 1915 года святцэль Ціхан, патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі, які ў 1914-1917 гадах быў архіепіскапам Літоўскім і Віленскім, выказаў ідэю пабудовы ў Вілейцы храма-помніка ў імя святцеля Мікалая Цудатворца – як памяць пра рускіх воінаў, якія загінулі ў Першую сусветную вайну.

У першую гадавіну вызвалення Вілейкі, 11 верасня 1916 года, на царкоўнай зямлі, на месцы меркаванай пабудовы храма-помніка, была асвечаная драўляная Свята-Мікалаеўская капліца, узведзеная клопатамі 396-га палявога шпіталя.

Са згоды Уладыкі пры царкве быў сфарміраваны будаўнічы камітэт, старшынёй якога быў прызначаны прадвадзіцель дваранства Вілейскага павета **Аляксей Бараздзін**.

## Ахвяраванні на храм

18 лістапада 1916 года яго высокапраасвяшчэнства даў дазвол на правядзенне збору ахвяраванняў на храм у межах Літоўскай епархіі. У хуткім часе паступілі і першыя ахвяраванні: ад невядомага вайскоўца чына – адзін рубель і ад вілейскай мяшчанкі **Агафіі Барташэвіч** – 30 рублёў.

Наступіў новы, 1917 год. У лютым адбыўся дзяржаўны пераварот, у кастрычніку – яшчэ адзін. Расійская імперыя спыніла сваё існаванне. Армія распалася.

Апошнія ахвяраванні на храм па падпісных лістах паступілі ў верасні 1917 года. 6 снежня 1917 года будаўнічы камітэт падвёў вынікі работы за год. У дакладзе часовага выканальніка абавязкаў казначэя камітэта святара Вілейскай Свята-Марыінскай царквы **Віктара Краскоўскага** гаварылася, што ад 6 снежня 1916 года і да 6 снежня 1917 года па грашовых кнігах камітэта запісаны прыход наяўнага капіталу: па ашчаднай кніжцы за №442/242 – пяць тысяч 100 рублёў ваеннай пазыкі і пазыкі Свабоды і наяўнымі па ашчаднай кніжцы за №1800-2560/242 – 1 064 рублі 30 капеек.

У другім паўгоддзі гэтага года (ад 6 чэрвеня да 6 снежня) паступілі больш буйныя ахвяраванні: ад афіцэраў 23-га Каўказскага стралковага палка – 54 рублі 33 капейкі, ад афіцэраў і салдат 28 артылерыйскай брыгады – 42 рублі, ад афіцэраў 723-га пяхотнага палка – 62 рублі, ад 532-га пяхотнага палка – 189 рублёў 51 капейка, ад розных палкоў і часцей штаба 133-й пяхотнай дывізіі – 415 рублёў 95 капеек, ад афіцэраў 1 Таманскага казацкага палка – 28 рублёў 58 капеек, ад афіцэраў 1-га Фінляндскага стралковага палка – 45 рублёў, ад афіцэраў 536-га пяхотнага Яфрэмаўскага палка – 67 рублёў 20 капеек, ад афіцэраў 543-га Гарадоцкага палка – 90 рублёў 18 капеек, ад салдат 548-га пяхотнага Чугуеўскага палка – 27 рублёў 28 капеек, ад воінскіх чыноў 112-га пяхотнага Уральскага палка – 103 рублі 50 капеек.

Праз тры гады, 6 лютага 1921 года, святар Віктар Краскоўскі зрабіў апошні запіс у кнізе прыхода: "...пакінуць усе дакументы будаўнічага камітэта з сабранымі сумамі на захоўванне ў Свята-Марыінскім храме горада Вілейкі".

## Брацкія могілкі сцерлі з зямлі

У сакавіку 1921 года, пасля заканчэння савецка-польскай вайны, Вілейка апынулася ў межах Рэчы Паспалітай. Польская ўлада не была заклапочаная, каб захаваць памяць пра рускіх воінаў, гэтак жа, як і савецкая ўлада, якая прыйшла ў 1939 годзе. Вайсковыя брацкія могілкі сцерлі з зямлі. Не засталося ніякіх слядоў і ад царквы Адсячэння галавы Іаана Прадцечы, пабудаванай на могілках у 1917 годзе, а таксама ад Свята-Мікалаеўскай капліцы, узведзенай ў 1916 годзе на месцы меркаванай пабудовы храма-помніка.

Аднак захаваліся не толькі дакументы будаўнічага камітэта, пакінутыя на захоўванне ў Свята-Марыінскім храме, але і натхнёныя радкі, прадыктаваныя любоўю, што Вілейка ўпрыгожыцца новым храмам-помнікам, які будзе наглядным сведчаннем гераізму рускіх воінаў.

Прайшло 100 гадоў пасля вайны. І ўжо сёння пры ўваходзе на вілейскія гарадскія могілкі па вуліцы 1 Мая ўзведзеная капліца-помнік у памяць герояў і ахвяр Першай сусветнай вайны.

Да яе ўзвядзення спрычыніліся такія неабыякавыя людзі, як **Віктар Буры**, **Анатоль Капцюг** – архітэктары; **Аляксандр Праснякоў** – дырэктар фонду Першай сусветнай вайны "Крокі" і ваенны кансультант. Мастаком праекта стаў вядомы беларускі мастак **Барыс Цітовіч**, які на працягу многіх гадоў узнаўляе памяць далёкай і не заслужана забытай вайны.

**Вольга КОЛАСАВА,**
**старшы навуковы супрацоўнік Вілейскага краязнаўчага музея.**

● КАЛЯНДАР

25 ВЕРАСНЯ

**120 гадоў** з дня нараджэння (1895) Ванды Лёсік (дзявочае Лявіцкая, мястэчка Радашкавічы), пісьменніцы, педагога. Яна была адзінай дачкой пісьменніка Ядвігіна Ш. (Антона Лявіцкага). Пасля вышэйшага пачатковага вучылішча ў Радашкавічах рыхтавалася да экзаменаў на вясковую настаўніцу, але гэтаму перашкодзілі каталіцкае веравызнанне і пачатак Першай сусветнай вайны. З 1914 года – у Мінску, працавала ў "Беларускай кнігарні" і гарадской бібліятэцы імя Пушкіна, куды яе рэкамендавала Алаіза Пашкевіч (Цётка). Потым была выхавальніцай і выкладчыцай у беларускіх дзіцячых прытулках і ў Першай мінскай беларускай школе. У 1917 годзе Ванда Лявіцкая стала жонкай палітыка, вучонага і пісьменніка Язэпа Лёсіка. Таксама займалася літаратурнай творчасцю: друкавала вершы і апавяданні ў "Нашай ніве", газетах "Беларусь" і "Вольная Беларусь". Калі ў 1930-х Лёсіка арыштавалі, як толькі стала магчымым, паехала да высланага мужа, з 1933 года дзяліла з ім ссылку. Напісала ўспаміны пра бацьку. Дзеці Лёсікаў – Люцыя, Алеся і Юры – у Беларусь не вярнуліся. Памерла 8 снежня 1968 года ў пасёлку Татарка Стаўрапольскага краю.

29 ВЕРАСНЯ

**135 гадоў** з дня нараджэння Сяргея Сахарава (1880 – 1954), дзеяча беларускай культуры ў міжваеннай Латвіі, фалькларыста, этнографа, педагога. Ён быў неардынарнай асобай на небасхіле беларускай педагогікі і асветы, літаратуры і культуры першай паловы 19 стагоддзя. На днях выйшаў том выбраных твораў Вольгі (жонкі) і Сяргея Сахаравых, куды ўвайшло ўсё лепшае з іх літаратурнай спадчыны. Некаторыя з твораў надрукаваныя ўпершыню.

30 ВЕРАСНЯ

**125 гадоў** назад (1890) нарадзіўся Антон Ляшэвіч (в. Абрамаўшчына, цяпер Смаргонскі раён), рымска-каталіцкі святармарыянін, блаславёны. У 1909 паступіў у Духоўную семінарыю ў Пецярбургу. Высвечаны на святара. Быў вікарыем, настаўнікам рэлігіі і лаціны, пробашчам у Іркуцку, Чыце, Харбіне. У 1934 узнагароджаны польскім Сярэбраным крыжам заслугі за дзейнасць на карысць бедных. 18 лютага 1943 застаўся разам з людзьмі, зачыненымі немцамі ў вясковай хаце, дзе і згарэў жыўцом.

1 КАСТРЫЧНІКА

**85 гадоў** з часу стварэння (1930) Беларускай студыі оперы і балета (у маі 1933 года рэарганізаваная ў Дзяржаўны тэатр оперы і балета БССР).

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

ПАДЗЕІ

# Пачынаюцца тыдні Германіі 2015

**Тыдні Германіі, якія ўжо сталі добрай традыцыяй і праводзяцца на працягу больш як дзесяці гадоў, сёлета пачынаюцца 25 верасня і будуць доўжыцца да 24 кастрычніка.**

Іх праграма адрасаваная ўсім, хто цікавіцца сучаснай нямецкай культурай. Яны адкрываюцца выставай "Шлях да адзінства Германіі", якая ў год 25-гадовага юбілею аб'яднання Германіі стане цэнтральным тэматычным напрамкам і будзе праходзіць чырвонай ніткай праз усю праграму. Сваё адлюстраванне знойдуць таксама і многія іншыя тэмы.

Пазнаёміцца з Германіяй беларускай грамадскасці дапамогуць фільмы і музыка, тэатр і літаратура, фотавыстава і іншыя мерапрыемствы. Актыўны ўдзел у праграме бяруць школьнікі, студэнты, а таксама вучоныя і спецыялісты.

За мінулыя гады тыдні Германіі сталі неад'емнай часткай працы ў галіне нямецкай культуры ў Беларусі. Яны праводзяцца Пасольствам Федэратыўнай Рэспублікі Германія разам з іншымі германскімі ўстановамі і нямецкімі пасярэднікамі ў сферы культуры ў Беларусі ў супрацоўніцтве з беларускімі партнёрамі.

Падрабязную інфармацыю аб асобных мерапрыемствах і арганізатарах вы знойдзеце на сайце minsk.diplo.de.

**Аддзел прэсы Пасольства Германіі ў Мінску.**

КРЫМІНАЛ

# Мыліцай забілі мужчыну

МАЛАДЗЕЧНА

**Здарэнне адбылося 20 верасня ў садовым таварыстве паблізу вёскі Гай Маладзечанскага раёна.**

Труп 71-гадовага гаспадара дома знайшлі ў 12:40 23 верасня.

Мужчына ў дачным доме жыў са сваімі пляменнікамі. Адзін з іх з-за хваробы амаль не мог хадзіць.

Па падазрэнні ў забойстве затрыманы другі пляменнік пацярпелага.

Па папярэдняй інфармацыі, мужчыну збілі мыліцай. Смерць наступіла з-за чэрапна-мазгавой траўмы і траўмаў грудной клеткі.

Пра здарэнне "Рэгіянальнай газеце" расказаў **Сяргей Сяляўка**, намеснік начальніка прэсы аддзялення РАСК Маладзечанскага РАУС.

**Наталля ТУР.**

КУЛЬТУРА

# У Вілейцы адкрылі Дом духоўнай асветы

ВІЛЕЙКА

У суботу, 19 верасня адбыліся ўрачыстасці, прысвечаныя 150-годдзю царквы Прападобнай Марыі Егіпецкай у Вілейцы.

Божую літургію ўзначаліў мітрапаліт Мінскі і Заслаўскі **Павел**, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі. Потым госці і старшыня Вілейскага райвыканкама **Віктар Кот** перарэзалі стужачку на адкрыцці Дома духоўнай асветы.

Узведзены ён побач с царквой.

**Аддзел інфармацыі.**

# У Мядзеле можна ўбачыць храмы Беларусі

МЯДЗЕЛ

У музеі народнай славы 15 верасня адкрылася выстава фотамастака з Пастаў **Васіля Белякова**. Называецца яна "Без прыкрас цэрквы і касцёлы Беларусі".

На выставе прадстаўлена больш за 80 прац з вывамі храмаў, паведаміла навуковы супрацоўнік музея **Валянціна Карзяёнак**.

На дзевяці працах – храмы Мядзельшчыны. Шмат на выставе касцёлаў і цэркваў з Віцебшчыны. Есць з Астравецкага і іншых раёнаў.

Гэта не першая выстава Васіля Белякова ў Мядзеле. У 2013 годзе паказвалі выставу "Дарогамі залатой восені".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**




Фота Настассі РОЎДЫ.

Пенсіянеры і рабочыя пасёлка Партызанскі, што на Вілейшчыне, капаюць бульбу на полі непадалёк ад Маладзечна.

ЗДАРОЎЕ

# "Фітнес па-беларуску"

## Як падрыхтавацца да яго і што рабіць, каб разагнуцца на наступны дзень

МАЛАДЗЕЧНА

**У канцы жніўня – пачатку верасня пачынаецца "фітнес па-беларуску" – на дачах, у вёсках, на агародах людзі пачынаюць капаць бульбу. Кожны спрабуе як мага хутчэй выбраць ураджай.**

Выкладчыца лячэбнай фізкультуры санаторнай школы-інтэрната для дзяцей з захворваннямі касцёва-мышачнай сістэмы і злучальных тканак **Алена Жызнеўская** патлумачыла, чаму пасля таго, як пакапалі бульбу, баліць спіна і ногі, якая пастава найбольш падыходзіць для гэтай фізічнай працы, як пераадолець стомленасць.

### Вядзіце актыўны лад жыцця – будзе прасцей

– Канешне, людзям, якія займаюцца фізкультурай, вядуць актыўны лад жыцця, значна лягчэй пераносіць такую нагрузку, – адзначае выкладчыца лячэбнай фізкультуры. – Таму за некаторы час, як збіраецеся капаць бульбу, больш рухайцеся, вядзіце актыўны лад жыцця – вам будзе прасцей.

Спецыяліст тлумачыць, што спіна, рукі і ногі пачынаюць балець пасля гэтай фізічнай работы, бо чалавек доўгі час знаходзіцца ў нязвыклым становішчы – сагнуўшыся, мышцы расцягваюцца.

Разбяромся ў тым, як пастава падчас працы ўплывае на мышцы чалавека. Капаеце бульбу сагнуўшыся – найбольш церпіць спіна і ногі, бо мышцы знаходзяцца ў найбольшым напружанні. Пачынаеце высыпаць кошык з бульбай у мяшок, нагрузка ідзе на мышцы прэса і рукі.

**Каб высыпаць кошык з бульбай у мех, згінайце крышачку ногі ў каленях, нагрузка будзе меншая.**

– Калі капаеце бульбу на кукішках, то нагрузка на арганізм чалавека меншая, чым стоячы, – тлумачыць Алена Жызнеўская. – Гэта звязана з тым, што становішча тулава блізкае да гарызантальнага, у якім чалавек увесь час знаходзіцца. Лепш, каб у гэтай паставе ногі былі больш разведзеныя ў бакі, на шырыні плячэй. Так чалавек будзе захоўваць раўнавагу і нагрузка на спіну будзе меншая.

Але з гэтай паставай трэба быць асцярожным людзям з павышаным ціскам.

– У такой паставе галава чалавека ўвесь час нахіленая ўніз, таму ціск можа рэзка падскочыць, чалавеку можа стаць дрэнна, – расказвае спецыяліст.

Пастава на карачках – самая лепшая, бо так рухі больш запаволеныя, а значыць, нагрузка меншая.

Аднак спецыяліст заўважае, што кожны сам павінен выбіраць тую паставу, якая найбольш зручная для яго.

### Як рэанімаваць арганізм пасля "беларускага фітнесу"

– Як гэта ні дзіўна гучыць, але пасля фізічнай працы не грэбуйце фізічнымі практыкаваннямі, – раіць Алена Жызнеўская. – Напрыклад, для спіны будзе карысна, калі вы ляжаце і будзеце рабіць нагамі "нажніцы", "ровар", згінаць ногі ў каленях, невялікія нахіленні ўперад і назад.

Аднак варта заўважыць, што нахіленні не варта рабіць людзям з павышаным ціскам.

Для ног падыдуць прысяданні, выпады. Каб адпачылі рукі, можна іх паштурхаць уперад і назад, зрабіць нажніцы.

– Аднак калі вы зусім стомленыя, то не трэба больш перагружаць арганізм, – раіць спецыяліст. – Гэта не пойдзе на карысць. Але пасля варта заняцца фізкультурай, каб вашы мышцы загартоўваліся.

**Выдатным адпачынкам для арганізма стане лазня, гарачая ванна. А масаж дапаможа разагнаць малочную кіслату, якая накапілася ў мышцах. Гэта дапаможа пазбегнуць ламоты ў касцях і боляў у мышцах.**

**– Ці можна гэту фізічную працу параўнаць з фітнесам?**

– Гэта розныя рэчы. Аднак для людзей, якія не вядуць актыўны лад жыцця, у большасці праводзяць вольны час на канапе, такая фізічная нагрузка сыдзе за фітнес, – жартуе спецыяліст.

Раскажыце нам, як вы сёлета капалі бульбу, ці добры быў ураджай. Лісты вы можаце пісаць на электронную пошту regionnews@rh.by альбо на адрас: Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.



**Галіна СІНІЦА**
8793850
@gmail.com
Skype: sinica-galina92



Кенгуру ручныя і спакойна ставяцца да таго, што іх гладзяць і кормяць з рукі, заўважае маладзечанка Кацярына Загарыя, якая злятала ў Аўстралію.

# У краіне кенгуру раніца пачынаецца ў 4:00

МАЛАДЗЕЧНА

**Маладзечанка Кацярына Загарыя праляцела 22 гадзіны над акіянам, каб пагасціць у дзядзькі ў Аўстраліі, дзе цяпер вясна ў самым разгары.**

Першае пытанне, якое Кацярыне задалі сябры паля таго, як яна прылялела на месца: "Ужо бачыла кенгуру і каал? Якія яны, сапраўдныя?"

– Амаль у першы дзень свайго падарожжа я папрасілася ў парк, які тут называецца "Дзікі свет", – расказвае Кацярына. – Вельмі хацелася на свае вочы пабачыць кенгуру. А тут яны, аказваецца, зусім ручныя. Спакойна даюць сябе пагладзіць. Дзіўна было тое, што відаў кенгуру тут не менш за пяць: рудыя, паласатыя. Кенгуру, якія больш падобныя на мышэй, чым на кенгуру.

А вось каалы аказаліся цяжкімі і гарачымі. І гладзіць іх можна толькі па спіне, таму што, калі дакранешся да іх галавы, яны могуць палічыць, што ты іх атакуеш, і накінуцца ў адказ. Такія неўраўнаважаныя і агрэсіўныя гэтыя мілыя плюшавыя мядзведзікі.

## Кенгурацiну замаўляюць толькі турысты

Аўстраліская кухня, прызнаецца Кацярына, нічым асаблівым не вылучаецца. Тут шмат звычайных кафэшак на кожным рагу, яшчэ больш сушы-бараў. Аўстралійцы любяць морапрадукты і садавіну.

Сказаць, што садавіна тут экзатычная, нічога не сказаць. Фрукты абсалютна непадобныя на нашы звыклыя апельсіны і бананы. Чаго варты толькі фрукт з шакаладнага дрэва. Ён пахне шакаладам, а смак нагадвае шакаладны пудынг.

Бананаў тут тры розныя віды.

– Мне асабіста больш за ўсё спадабаўся арэх макадаміі. Па-вар'яцку смачны!

## Аўстралійскія грошы ў вадзе не мокнуць

Што датычыцца цэнаў, у пераліку на нашы грошы атрымоўваецца тое самае.

Напрыклад, паўкілаграма сырога стэйка з кенгурацiны каштуе дзевяць аўстралійскіх долараў (108 тысяч рублёў).

Адзінае, што заробкі аўстралійцаў непараўнальна большыя за беларускія.

Працуючыя жыхары Аўстраліі атрымоўваюць 40-50 тысяч аўстралійскіх долараў у год (1 аўстралійскі долар = 12 000 рублёў).

– Грошы тут асаблівыя: яны не пэцкаюцца, не намакаюць і не мнуцца.

## Рэжым дня: адбой у 21:00

Сонца над Аўстраліяй заходзіць рана. Прыкладна ў гадзін пяць-шэсць. І цямнее так хутка, што не паспяваеш заўважыць гэта.

Восем вечара для аўстралійцаў ужо ноч. У дзевяць вечара на вуліцах ціха і пуста – усе спяць.

Але і раніца тут пачынаецца вельмі рана. У чатыры гадзіны вуліцы запаўняюцца людзьмі – аўстралійцы выходзяць на ранішнюю прабежку.

Снедаюць яны кавай з пірожнымі, батонамі, булкамі.

Ад гэтага і спартыўныя залы працуюць тут 24 гадзіны ў суткі.

Жыхары Аўстраліі жывуць у адна і двухпавярховых дамах. Вышынныя толькі ў цэнтры. І гэта гасцініцы ці забаўляльныя цэнтры для турыстаў.

У гарадах створаныя ўсе ўмовы для інвалідаў. Паўсюль ліфты, спецыяльныя пад'ёмы. Тут пра інвалідаў думаюць і клапоцяцца.

## З бадзяжнымі жывёламі строга

У Аўстраліі зусім няма бадзяжных жывёл. Свайго хатняга гадаванца кожны гаспадар павінны зарэгістраваць, зрабіць прышчэпку. Калі жывёліне спаўняецца паўгода, яе лягчаюць.

Калі сабака раптам збягае з дому, яго ўсыпляюць. Таму што жывёла нявыхаваная і можа быць небяспечнай.

У кожным квартале ёсць спецыяльныя пляцоўкі для выгулу сабак. Тут жа стаяць місачкі, каб можна было папаіць жывёлу, і кранікі з вадой, каб яе набраць або памыць сабаку, які выпацкаўся. Таксама на кожнай пляцоўцы ляжаць спецыяльныя пакецікі, каб прыбраць за сваім гадаванцам.

Адным словам, сабакі тут – паўнавартасныя члены сям'і. І калі раптам хто ўбачыць, што ты ўдарыў свайго сабаку, тут жа выкліча паліцыю. На першы раз гаспадар заплаціць штраф, на другі жывёлу ў яго забяруць.

Аўстралія вельмі строгая краіна.

## Горад Голд Кост: прыязджайце глядзець на кітоў

Кацярына пасялілася ў горадзе Голд Кост, які месціцца на самым беразе акіяна. Узбярэжжа цягнецца ўздоўж акіяна 70 кіламетраў. Вада ў акіяне цёплая, каля 20 градусаў, і пясок тут дробны-дробны. Калі ходзіш па ім, адчуванне, што ступаеш па крухмале. І хрумсціць ён гэтак жа.

Горад Годл Кост унікальны тым, што з-за цёплай вады сюды прыплываюць кіты, каб нараджаць і выхоўваць сваіх дзяцей. Турысты з усяго свету едуць, каб паглядзець, як кіціха вучыць плаваць сваіх кіцянят.

**Наталля ТУР.**
**Фота забяспечаныя Кацярынай ЗАГАРЫЯЙ.**



Каалы падаліся Кацярыне цяжкімі і гарачымі. Гладзіць іх можна толькі па спіне.



Аўстралійскія грошы не мокнуць, не мнуцца і не пэцкаюцца.



Папугаяў у Аўстраліі шмат. Яны наўпрост прылятаюць у двары.



Арэх макадаміі.

НАВІНЫ

## “Смаргонь” перамагла ў звышвыніковым матчы

СМАРГОНЬ

Дзесяць галоў забілі ў матчы першай лігі чэмпіянату Беларусі па футболе ў Лідзе 20 верасня. Мясцовы клуб прымаў “Смаргонь” і прайграў 4:6. Каманды пачалі забіваць галы з восьмай хвіліны і спыніліся толькі на 80-й.

Хет-трык у смаргонцаў зрабіў **Аляксандр Ануфрыеў**. **Ігар Крывабок** забіў адзін гол і зрабіў тры галявыя перадачы.

– Гульня атрымалася звышвыніковая, гледачам на трыбунах не даводзілася сумаваць, – прыводзіць словы галоўнага трэнера “Смаргоні” **Мікалая Рындзюка** афіцыйны сайт клуба. – Можна сказаць, што мы сёння атрымалі за ўсё тое, што не забілі ў папярэдніх гульнях. Рады, што вызначыліся шэсць разоў, але засмучае, што па-ранейшаму прапускаем.

## “Забудова-Буд” за два матчы забіла 11 галоў

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА

Багатымі на галы выдаліся для нашых камандаў дамашнія гульні 19 тура чэмпіянату Мінскай вобласці на футболе. Прайшлі яны 13 верасня. “ДЮСШ-4” з Маладзечна разграміла моцную каманду “Старыя Дарогі” 6:1. Па два галы на рахунку **Вышынскага** і **Чабрыцкага**, яшчэ па адным забілі **Лавор** і **Талстой**.

“Забудова-Буд” з Чысці абыграла “Беразіно” 5:3. Хет-трыкам адзначыўся **Аляксей Ляўковіч**.

“Вілія” разграміла аўтсайдара ФК “Нясвіж” 5-0. Два галы забіў **Ярашэвіч**, па адным разе вызначыліся **Цырук**, **Ермакоў** і **Антановіч**.

– Лік мог быць і двухзначны, каб іх варатар не так цягнуў усё і нам шчасціла. Тры разы нашы футбалісты траплялі ў перакладзіну і штангу, – расказвае заўзятар “Віліі” **Артур Мінчук**.

На полі не было з першых хвілін **Аляксандра Грыхуціка**, не гулялі асноўныя гульцы – **Кулеш**, **Сяліцкі**.

– У другім тайме выпусцілі моладзь на поле. Але нічым яна не запомнілася, хоць было бачна, што старалася, – кажа Артур. – Рады за дамашні дэбют свайго сябра **Вадзіка Ярашонка** на пазіцыі абаронцы. У нашага варатара працы практычна не было.

А 20 верасня “ДЮСШ-4” згуляла ў гасцях унічыю з лідарам,“Коласам” з Чэрвеня, 1:1. Па-ранейшаму маладзечанцы займаюць другое месца і адстаюць ад “Коласа” на чатыры ачкі.

“Забудова-Буд” працягвае радаваць заўзятараў выніковай гульнёй: дамагліся дамашняй перамогі 6:2 над “Капылём”.

Прайграла 20 верасня толькі “Вілія”. У гасцях віляйчане саступілі 1:2 “Беразіно”.

Каманда з Чысці ідзе на шостым месцы, “Вілія” – на сёмым.

## У спаборніцтвах па міні-футболе перамаглі выратавальнікі

ВІЛЕЙКА

На базе вілейскай СШ №1 10 і 11 верасня прайшлі спаборніцтвы па міні-футболе. Праводзіліся яны ў рамках круглагадовай спартакіяды працоўных калектываў Вілейскага раёна.

Перамагла каманда райаддзела па надзвычайных сітуацыях. На другім месцы – гульцы “Зеніт-БелОМА”, на трэцім – каманда Вілейскай мэблевай фабрыкі

Пасля дзевяці відаў праграмы круглагадовай спартакіяды лідзіруюць прадстаўнікі аддзела адукацыі, спорту і турызму. Далей размясціліся каманды “Энергазбыту” і Вілейскага водаканала.

Пра гэта распавёў інструктар-метадыст цэнтра фізкультурна-аздараўленчай работы “Сатурн” **Аляксандр Вайда**.

## Гулялі ў футбол і дзяўчаты, і юнакі

МЯДЗЕЛ

У Мядзельскім фізкультурна-аздараўленчым цэнтры ў рамках адзінага тыдня масавага футбола УЕФА 11 верасня прайшоў турнір сярод дзяўчат. Першае месца заняла каманда мядзельскай СШ №1.

А назаўтра гулялі юнакі. Перамагла каманда Мядзельскага ясляў-сада – сярэдняй школы, паведаміў дырэктар фізкультурна-аздараўленчага цэнтра **Андрэй Русак**.

## Каманда з Мядзела пазмагаецца ў аматарскай валейбольнай лізе

МЯДЗЕЛ

Каманда “Мядзел ФАЦ” прыме ўдзел у чэмпіянаце адкрытай аматарскай валейбольнай лігі Мінска. Будзе яна змагацца ў другім дывізіёне. Першая гульня намечаная на 27 верасня.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ФУТБОЛ

# У сеціве перастала існаваць суполка заўзятараў “Маладзечна”

МАЛАДЗЕЧНА

**Такое рашэнне 21 верасня прыняў кіраўнік суполкі “ФК Маладзечна” ў кантакце Дзмітры Рухлевіч.**




Фота Наталлі ТУР

У 2013 годзе фанацкія трыбуны былі запоўненыя фанатамі.

– Гэта рашэнне ў мяне спела з мінулага сезона. Я передаю інфармацыйную эстафету суполцы “Маладзечанцы” з прычыны поўнай безуважнасці сектара і яе лідара да жыцця клуба. Не магу сабраць дамашні сектар і выязны склад, дык хай хоць гэтым сябе зоймуць. Яны ж хваліцца натоўпам у 2300 чалавек.

Цягам усяго сезона Дзмітры па магчымасці вёў анлайнтрансляцыі матчаў.

– І я зразумеў: камандзе трэба падтрымка людзей, а не адзін хлопец з мабілай на трыбуне.

На пытанне, што павінна адбыцца, каб суполка вярнулася, Дзмітры адказаў:

– Варыянтаў некалькі. Калі цяперашнія “лідары” сектара сыдуць і не перашкодзяць развівацца тым хлопцам, што тварылі нерэальныя рэчы (перформансы) і падтрымлівалі клуб на працягу многіх гадоў. Калі гэтыя хлопцы вернуцца да актыўнай падтрымкі каманды, тады і я займуся сваёй справай – інфармацыйнай. Калі ж не, то ёсць шэраг праектаў, да якіх я мог бы далучыцца, досвед адміністравання ў мяне вялікі.

Суполка “ФК “Маладзечна” існавала ў сеціве амаль сем гадоў. У ёй было 2 700 падпісчыкаў. Цяпер, каб дазнацца навіны каманды, трэба будзе ісці непасрэдна на стадыён.

**Наталля ТУР.**

ФУТБОЛ, ДРУГАЯ ЛІГА

# Перамога ў занальным турніры

МАЛАДЗЕЧНА

**Даўно такога не было ў нашым футболе! Упэўненае лідарства, значны васьміачковы адрыў ад пераследнікаў. Балельшчыкі маюць істотную нагоду для радасці!**

Каманда спартыўнай школы дэбютавала ў рэспубліканскім чэмпіянаце і адразу ж праявіла сваё майстэрства. Досвед трэнерскага штаба і жаданне маладых футбалістаў – вось асноўныя складнікі паспяховага шляху ў паўночна-ўсходняй зоне другой лігі.

Ужо пасля 10-12 праведзеных матчаў было зразумела, што пуцёўка ў фінальны турнір дасягнутая. Яшчэ праз некалькі тураў зніклі сумненні наконт першага радка. У апошніх двух турах наша каманда змагалася за ачкі, якія спатрэбяцца далей. Перамаглі “Вікторыю”, плюс да таго, адолеўшы “Тарпеда”, дапамаглі прабіцца ў чацвёрку асіпаўчанам, а гэта было вельмі важна, каб сабе назапасіць больш “залатых” ачкоў.

### Знаходзімся ў лідарскай тройцы

У сувязі з пашырэннем вышэйшай лігі ажно тры каманды пяройдуць з другой лігі ў першую па выніках гэтага сезона. На працягу фінальнага турніру маладзечанцы і дома, і на выездзе сустрэнуцца з сапернікамі, якія выступалі ў іншай зоне.

Гэта відавочны лідар “Узда” з моцнымі гульцамі ў складзе. Гэта мінскае “Тарпеда” і “Клецк”, якія захочуць прабіцца ў прызавую тройку, бо знаходзяцца зусім блізка ад яе. Гэта мінскі “Прамень”, якому будзе складана прасунуцца наверх, затое зможа пагуляць разняволена, ні за што не баючыся.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

### Становішча камандаў па выніках занальнага турніру

| | Каманды | Гульні | Перамогі | Нічые | Паражэнні | Забіта-прапушчана | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **1** | **Маладзечна-ДЮСШ** | **18** | **13** | **3** | **2** | **49-13** | **42** |
| 2 | Вікторыя (Мар'іна Горка) | 18 | 10 | 4 | 4 | 32-23 | 34 |
| **3** | **Ашмяны** | **18** | **9** | **5** | **4** | **38-19** | **32** |
| 4 | Асіповічы | 18 | 10 | 1 | 7 | 36-27 | 31 |
| 5 | Тарпеда (Магілёў) | 18 | 9 | 2 | 7 | 33-28 | 29 |
| 6 | Жлобін | 18 | 9 | 1 | 8 | 35-37 | 28 |
| 7 | Ждановічы | 18 | 5 | 7 | 6 | 17-25 | 22 |
| 8 | Спартак (Шклоў) | 18 | 6 | 4 | 8 | 24-23 | 22 |
| 9 | Рагачоў-МК | 18 | 1 | 4 | 13 | 12-36 | 7 |
| 10 | Прыазер'е (Верхнядзв.) | 18 | 1 | 3 | 14 | 14-59 | 6 |

### Становішча камандаў на старце фінальнага турніру

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Узда | 6 | 4 | 2 | 0 | 11-1 | 14 |
| **2** | **Маладзечна-ДЮСШ** | **6** | **3** | **3** | **0** | **12-5** | **12** |
| 3 | Вікторыя (Мар'іна Горка) | 6 | 3 | 1 | 2 | 8-9 | 10 |
| **4** | **Ашмяны** | **6** | **2** | **2** | **2** | **9-5** | **8** |
| 5 | Тарпеда (Мінск) | 6 | 2 | 2 | 2 | 4-6 | 8 |
| 6 | Клецк | 6 | 2 | 1 | 3 | 7-10 | 7 |
| 7 | Прамень (Мінск) | 6 | 1 | 1 | 4 | 5-10 | 4 |
| 8 | Асіповічы | 6 | 1 | 0 | 5 | 5-15 | 3 |

КОНКУРСЫ

# Выбралі міс Мядзела

МЯДЗЕЛ

**У райцэнтры 19 верасня прайшоў моладзевы праект "Прыгажуня Мядзела".**

У конкурсе ўдзельнічалі сем прадстаўніц ад арганізацый і прадпрыемстваў. Яны расказвалі пра сябе і Мядзел, выходзілі на сцэну ў вячэрніх строях.

У выніку кожная з удзельніц атрымала пэўны тытул і падарунак. Так, "Міс сімпатый гледачоў" стала **Ніна Дамеенка**. Тытул "Міс Мядзел" журы прысудзіла **Вікторыі Альгамец**.

– Вельмі хвалююча і радасна быць міс Мядзела, таму што гэта цудоўны горад. Я нядаўна прыехала сюды і ўлюбілася ў яго, – прызнаецца дзяўчына.

Вікторыя жыве ў Мядзеле другі месяц. Яна – з Мінскага раёна. Прыехала па размеркаванні працаваць ва ўпраўленне сельскай гаспадаркі і харчавання райвыканкама.

## Рамантычны танец з самім Мядзелам

– Ці доўга думалі наконт удзелу ў конкурсе?

– Калі прапанавалі, адразу думала, сумнявалася. Але калі з'явілася ідэя "візітоўкі" і яе падтрымалі, вырашыла: "Чаму б і не!" Гэта была цалкам мая ідэя нумара. І шмат людзей дапамагалі яе ажыццявіць, ім вялікі дзякуй. Без іх усё было б не так.

Падчас "візітоўкі" Вікторыя малявала набярэжную горада.

– Прынамсі, спрабавала намаляваць, – усміхаецца Вікторыя. – Быў яшчэ танец. Хлопец, які мне дапамагаў, увасабляў Мядзел. Так што, гэта быў рамантычны нумар з самім Мядзелам.

Алесь ВЫСОЦКІ.




Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Тытул "Міс Мядзел" атрымала Вікторыя Альгамец.



СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 3 | 6 | | | 5 | 9 | | |
| | | 8 | | 1 | 7 | | 5 | |
| 4 | | | | | | | | |
| | | 4 | | 2 | | | | |
| | 7 | | 1 | | 4 | | 3 | |
| | | | | 9 | | 1 | | |
| | | | | | | | | 7 |
| | 2 | | 6 | 3 | | 8 | | |
| | | 9 | 4 | | | 2 | 6 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



РЭПЕРТУАРЫ

# Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Прэм'ера! Гістарычная драма **"Вылечыць страх"** (Украіна, Беларусь, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
24, 25, 26, 27, 30 верасня – у 18:00
28, 29 верасня – у 18:40
Цана білета: 30 000 рублёў

Прэм'ера! Трылер, драма **"Эверэст"** (3D, ЗША, Вялікабрытанія, Ісландыя, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
24, 27, 30 верасня – у 20:10
25, 26 верасня – у 22:40
28, 29 верасня – у 21:00
Цана білета: 55 000-60 000 рублёў

Прэм'ера! Камедыя **"Стажор"** (ЗША, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
25, 26 верасня – у 20:10
Цана білета: 45 000-50 000 рублёў

Анімацыя, камедыя **"Кунг фу Трусік: Валадар агню"** (Кітай, 2015, без узроставых абмежаванняў)
25 верасня – у 16:00
26, 27 верасня – у 13:30
Цана білета: 25 000-30 000 рублёў

Баявік, фантастыка **"Бягучы ў лабірынце: Выпрабаванне агнём"** (3D, ЗША, 2015, пасля 16 год)
26, 27 верасня – у 15:30
Цана білета: 55 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя, камедыя, фэнтэзі **"Сёмы гном"** (Германія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
26, 27 верасня – у 15:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Прыгоды **"Таямніца цёмнага пакоя"** (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
26 верасня – у 17:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Прэм'ера! Камедыя, меладрама **"Прыкінься маім хлопцам"** (Францыя, 2012, пасля 16 год)
25, 27 верасня – у 17:00
26 верасня – у 19:00
28 верасня, 1 кастрычніка – у 21:30
29 верасня – у 19:30
Цана білета: 35 000 рублёў



Прэм'ера! Камедыя **"Суперфарсаж"** (ЗША, 2014, пасля 16 год)
25, 27 верасня – у 19:00
26 верасня – у 21:00
28 верасня, 1 кастрычніка – у 19:30
30 верасня – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Трылер, баявік, крымінал, дэтэктыў **"Ганмэн"** (ЗША, Іспанія, Францыя, Вялікабрытанія, 2015, пасля 18 год)
25, 27 верасня – у 21:00
29 верасня – у 21:30
30 верасня – у 19:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл.: **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

**Забраніраваць білет можна праз сеціва на сайце megamag.by.**

# Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Фэнтэзі **"Пасвячоны"** (ЗША, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
25 верасня – у 18:00
26, 27 верасня – у 19:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Трылер **"Рука д'ябла"** (ЗША, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
25 верасня – у 20:00
26 верасня – у 17:30
27 верасня – у 19:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Анімацыя **"Кінадзяцінства. Пры лысую прынцэсу"** (Расія, без узроставых абмежаванняў)
26, 27 верасня – у 14:00
Цана білета: 12 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Камедыя **"Стажор"** (2D, ЗША, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
25 верасня – у 17:30
26 верасня – у 21:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Гістарычны, драма **"Вылечыць страх"** (2D, Украіна, Беларусь, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
25 верасня – у 20:00
26 верасня – у 19:30
27 верасня – у 18:50
Цана білета: 30 000 рублёў

Анімацыя, камедыя **"Кунг-фу Трусік: Валадар агню"** (3D, Кітай, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
26 верасня – у 15:00
27 верасня – у 13:00
Цана білета: 30 000 рублёў

Фантастыка, баявік **"Бягучы ў лабірынце: Выпрабаванне агнём"** (3D, ЗША, пасля 16 год)
26 верасня – у 17:00
27 верасня – у 21:00
Цана білета 55 000 рублёў

Прыгоды, баявік, фантастыка **"Фантастычная чацвёрка"** (2D, ЗША, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
27 верасня – у 15:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Жахі **"Пікавая дама: Чорны абрад"** (2D, Расія, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
27 верасня – у 17:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Тэл. **8(01771) 5-68-59**

ГАРАСКОП
25 ВЕРАСНЯ-1 КАСТРЫЧНІКА

**Авен.** Не будзьце ганарлівыя, нейкай царственнай асобай.

**Цялец.** Калі даводзіцца шмат працаваць, то добра час ад часу сябе песціць – мяккі плед, цікавая кніжка, смачная вячэра...

**Блізняты.** Зоркі раяць дзейнічаць па формуле: "Часцей карыстайся вушамі, чым языком".

**Рак.** Цяпер ваш энергетычны патэнцыял невысокі. Больш бывайце на свежым паветры, любуйцеся прыгажосцю восеньскай прыроды, беражыце свой арганізм ад перагрузак.

**Леў.** Кажуць, што ўсё новае, гэта добра забытае старое. І ў гэтым вы самі пераканаецеся. Зоркі катэгарычна супраць любых рызыкоўных эксперыментаў. Затое, калі будзеце прытрымлівацца шляху, праверанага часам, і захоўваць правілы, што даўно ўстаяліся, да поспеху вы прыйдзеце самай кароткай дарогай. Гэта справядліва ва ўсіх сферах жыцця – і ў бізнесе, і ў быце, і ў адносінах з людзьмі.

**Дзева.** Калі хочаце што арганізаваць, старайцеся канкрэтна сфармуляваць сваю думку: што трэба, навошта і якую карысць гэта каму прынясе. Інакш ніхто для вас і пальцам не варухне.

**Шалі.** Жыццё мяняецца, і не трэба гэтаму супраціўляцца. Не бойцеся змяненняў, плывіце ў патоку і ўспрымайце жыццё як прыгоды.

**Скарпіён.** Перыяд выдасца не такі просты. З усім можна справіцца, калі не паддавацца эмоцыям. І вы толькі парадуецеся, што вашы блізкія побач і гатовыя дапамагчы.

**Стралец.** Ці ведаеце вы правіла трох Н – няма нічога немагчымага. І гэта правіла працуе. Калі вы моцна чаго захочаце, то ўвесь Сусвет прыйдзе вам на дапамогу і ўрэшце жаданне ваша споўніцца.

**Казярог.** Не дайце ранам з мінулага адбіцца на вашым цяперашнім жыцці. Не прыкідвайцеся, што яны нічога не значаць. Знайдзіце падтрымку ў блізкіх ці ў тых, хто прафесійна займаецца лячэннем эмацыйных траўмаў.

**Вадалей.** Вам спадабаецца сюрпрыз, які паднясе вам лёс. Вы будзеце літаральна свяціцца энергіяй і шчасцем, усё будзе атрымоўвацца, любыя пытанні вырашацца.

**Рыбы.** Зоркі прарочаць вам адкрыццё ў сабе дызайнерскіх здольнасцей, таму рабіце рамонты, добраўпарадкоўвайце сваё гняздо.

Марыя УРБАНОВІЧ.

ISSN 1991–7155
9 771991 715006



# Рэгіянальная газета. Rh.by

ТэлетыДзень 27

## ● НАДВОР'Е

**26 верасня, субота**

| | Пятніца | | | Субота | | | Нядзеля | | | Панядзелак | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +16 / +20 | 742 | ← 3 | +16 / +18 | 741 | ↙ 3 | +12 / +13 | 744 | ↓ 7 | +8 / +13 | 749 | ↘ 4 |
| Вільня | +15 / +17 | 751 | ↓ 5 | +12 / +13 | 752 | ↓ 6 | +9 / +14 | 755 | ↓ 6 | +7 / +14 | 758 | ↘ 5 |

Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | Усход, захад па Маладзечне



Усход 7.02
Захад 19.02
Даўжыня дня 11.59

Усход 18.12
Захад 4.25
Квадра 2




### ● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**АШМЯНЫ**

Мінімальная тэмпература -1,9 °C у 2001 годзе
Максімальная тэмпература +21,9 °C у 2006 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 20 мм у 1984 годзе
Назіранні за 38 гадоў. Паводле meteoinfo.by

## ● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў РЭГІЁНЕ

# Што было самае смачнае у школьнай сталовай?



**Эльвіра Варапаева, бухгалтар, Вілейка:**
– Калі шчыра, то ніколі не любіла есці ў школьнай сталовай. І сын, які ўжо скончыў школу, заўсёды гаварыў, што кормяць нясмачна. Абеды былі халодныя, катлеты – не мясныя, у большасці з батона. Даводзілася даваць нешта з сабой.



**Дар'я Палынская, студэнтка, Маладзечна:**
– Харчаванне ў школе было бясплатнае, не асабліва павыбіраеш. Катлеты былі не вельмі смачныя, асабліва, калі плавалі па груцы. Падабалася вараная кілбаса з пюрэ. Гэта страва традыцыйна ў повараў атрымоўвалася. Сваё стаўленне да запяканкі і цяпер не магу вызначыць. А вось булачкі былі надта смачныя.



**Таццяна Тураўская, мастачка, Маладзечна:**
– У сталовай абедала пастаянна. Катлеты і булачкі былі вельмі смачныя. Тады булачкі пяклі ў школьнай сталовай, шкада, што цяпер не робяць гэтага.



**Юлія Жук, у дэкрэтным адпачынку, Вілейка:**
– Вучылася ў вясковай школе ў Сцешыцах Вілейскага раёна, таму абедаць хадзілі кожны дзень. Падабаліся аладкі з павідлам і кампотам.



**Кацярына Котава, юрысконсульт, Маладзечна:**
– Заўсёды абедала ў школе, нават і цяпер бегаю на абед у другую школу. Усё вельмі смачна, асабліва катлеты.



**Алеся Маліноўская, турагент, Ашмяны:**
– У нашай школьнай сталовай амаль усё было смачнае. Вучылася ў гальшанскай школе на Ашмяншчыне. Асабліва падабаліся рыбныя катлеты і драджджавыя аладкі. Не вельмі любіла малочны суп з макаронай.



**Уладзімір Каркоцкі, страхавы агент, Вілейка:**
– Падабаўся толькі шніцаль. Калі страва не падабалася, то еў столькі, колькі мог.

Падрыхтавала Галіна СІНІЦА.

## Чытайце праз тыдзень:

● Конкурсы і паказальныя выступленні спартсменаў-воркаўтараў. Як праходзіла адкрыццё воркаўтпляцоўкі ў Вілейцы, чытайце ў наступным нумары.

## ● ПРОСТА АНЕКДОТ

***
Школьніца вярнулася дамоў апоўначы. Мама на ганку пачынае крычаць:
– Як табе не сорамна, вось я ў твае гады...
– Мам, у твае гады мне бый ужо год!

***
Настаўнік малявання ў школе:
– Дзе ты бачыў анёла з трыма крыламі?
Вучань:
– А дзе вы ўвогуле бачылі анёла?



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№39 (1065) 25.09.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 1230. Падпісана ў друк у 9.00 24.09.2015.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.